# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 КРАСАВІК 16 ПЯТНІЦА

№ 72 (507)

Цана 3 рублі


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

### МИНСКУ ЧИСТЫМ БЫТЬ!

Соб.информ.

В городе развернулась массовая кампания по наведению чистоты и порядка. Однако не все коллективы предприятий и организаций столицы проводят уборку своих и близлежащих территорий. В результате Минская городская санэпидстанция с 8 по 13 апреля составила 119 протоколов за нарушение санитарно-гигиенических норм и правил. Естественно, оштрафовали лиц, допустивших беспорядок. В их числе: А.В.Стакевич, начальник ДУ Московского района, Г.С.Абрамов, главный инженер ЖРЭО Центрального района, И.Е.Романовский, начальник АХО завода «Кинодеталь», В.Н.Харевич, заместитель директора института «Белгипрогаз», В.Я.Шавеко, директор музыкальной школы № 2 и другие.

### ЧАС «ПІК». ЛЯ ТАНКА

АСЯ ТРАЦЮК

Гэтыя словы сталі свайго роду паролем для тых, хто ўчора пасля працоўнага дня прыйшоў на мітынг пад назвай «Народ супраць карупцыі». Ініцыятары яго правядзення — Беларускі народны фронт «Адраджэнне» і Свабодны прафсаюз рэспублікі. Таму адразу і кінулася ў вочы мноства бел-чырвона-белых палотнішчаў. Прыхільнікі чырвоных «серпасто-молоткастых», відаць, па-ранейшаму настроены аптымістычна, маўляў, ні карупцыі, ні мафіі ў былым камуністычным аазісе быць не можа. А шкада, бо факты, якія прагучалі з выступаў мітынгуючых, цалкам адмяталі такі аптымізм.

Народныя дэпутаты парламента Сяргей Навумчык, Лявон Баршчэўскі, Іван Герасюк, Яўген Новікаў, рабочая Мінскага электратэхнічнага завода Марыя Аліева, намеснік рэдактара часопіса «Дзеці і мы» Алесь Мікалайчанка, юрыст Людміла Касяк - цяжка пералічыць усіх, хто выплюхваў праўду-матку ў адрас асабіста кіраўніка ўрада В.Кебіча з «ўсёй ягонай хэўрай».

Неаднаразова выклікаліс на трыбуну міністр унутраных спраў рэспублікі Ягораў, старшыня камітэта дзяржаўнай бяспекі Шыркоўскі,генеральны пракурор Шаладонаў, каб адказаць народу, хто вінаваты ў раскрадані народнага багацця, ці панёс хто асабістую адказнасць перад законам за тыя злоўжыванні, якія зрабіліся прыкметай нашага часу? У адказ — высокае маўчанне.

— Нягледзячы на наша запрашэнне — ні самі не прыйшлі, ні клеркаў сваіх не прыслалі, — адзначыў старшыня БНФ Зянон Пазьняк.— Ды і навошта ім сюды хадзіць. Як кажуць народныя выбраннікі Вярхоўнага Савета: вы хадзіце на мітынгі, а мы будзем толькі кнопкі націскаць. І гэтай раўнадушна-маналітнай большасці супрацьстаіць ўсяго 30 дэпутатаў парламенцкай апазіцыі БНФ. Гэтаму цынізму трэба пакласці канец! Інакш аб нас наменклатура будзе выціраць ногі, давядзе да галечы.

Таму пад занавес мітынгу прагучала нібы прыгавор: настаў час прыцягнуць камуністычную наменклатурную мафію да абавязковай асабістай адказнасці!

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю з патрабаваннем адстаўкі Кебіча, правядзення рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета і новых дэмакратычных выбараў; у сродках масавай інфармацыі ў адпаведны з законам тэрмін даць адказ на дэпутацкія запыты па фактах карупцыі, якая пануе ў Беларусі.Другая рэзалюцыя была прынята ў знак пратэсту супраць манапалізацыі прэсы і ў падтрымку незалежных журналістаў, якія сталі аб'ектам нападак і рэпрэсій з боку дзяржаўных адміністрацыйных колаў.

Заклік З.Пазьняка прыйсці 18 мая на плошчу Незалежнасці, каб падтрымаць апазіцыю БНФ падчас работы чарговай сесіі Вярхоўнага Савета быў успрыняты пад гучнае «Жыве Беларусь!»

## 18-19 АПРЕЛЯ У ПРАВОСЛАВНЫХ ВСЕГО МИРА – ПАСХА.
## С ПРАЗДНИКОМ ВАС!



### КАЛЯНДАР

*ПЯТНІЦА, 16 КРАСАВІКА СОНЦА — 6.07/20.12. Даўжыня дня — 14.05. МЕСЯЦ — апошняя квадра 13 красавіка, усход 3.44/захад 13.33.*

*ІМЯНІНЫ: СЁННЯ: Праваслаўныя: Мікіты, Фядоссі (Феадосіі). Каталіцкія: Бэрнадэты, Ксеніі, Марыі, Юліі.*

*ЗАЎТРА: Праваслаўныя: Георгія, Засімы, Іосіфа (Язэпа). Каталіцкія: Робэрта (Роберта), Рудольфа, Сцяпана.*

*У НЯДЗЕЛЮ: Праваслаўныя: Светлае Хрыстовае Уваскрасенне. Пасха (Вялікдзень). Каталіцкія: Апалонія, Гальдзіна, Багуслава. 2-я Велікодная Нядзеля. Свята Міласэрнасці.*

*У ПАНЯДЗЕЛАК: Праваслаўныя: Мяфодзія, Яўціхія. Каталіцкія: Адольфа, Лявона, Уладзіміра.*

*АЎТОРАК, 20 КРАСАВІКА СОНЦА — 5.58/20.19. Даўжыня дня — 14.21. МЕСЯЦ — маладзік 22 красавіка, усход 4.47/захад 18.21.*

*ІМЯНІНЫ: Праваслаўныя: Акуліны, Георгія, Данілы (Даніїла). Каталіцкія: Агны, Чэслава (Часлава).*

● ДАСЛОЎНА

## У ГЭТЫХ АБСТАВІНАХ ЁСЦЬ АДЗІН ЗАХАД — ТРЭБА ЗАПЫТАЦЦА Ў НАРОДА

*ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С.С.ШУШКЕВІЧА НА ПЛЯНАРНЫМ ПАСЯДЖЭННІ 9 КРАСАВІКА НЕЧАРГОВАЙ АДЗІНАЦЦАТАЙ СЕСІІ*

Шаноўныя народныя дэпутаты!

Відавочна, мне прыйдзецца адказаць на адно з пытанняў, якое было пастаўлена народнымі дэпутатамі: як я бачу асноўныя накірункі і прыярытэты нашай унутранай і знешняй палітыкі.

Ва ўнутрыпалітычнай галіне, я лічу, мы павінны сфарміраваць сапраўднае народаўладдзе, забяспечыць палітычныя і грамадзянскія правы асобы, абараніць грамадзян ад насілля з боку іншых грамадзян, а таксама з боку ўлады. Прававая дзяржава — гэта забеспячэнне ўстойлівага балансу і раўнавагі заканадаўчай і выканаўчай улады ў цэнтры і на месцах праз Канстытуцыю і законы.

У эканоміцы — стварэнне сацыяльна арыентаванай рыначнай гаспадаркі, заснаванай на плюралізме форм уласнасці, усебаковай падтрымцы індывідуальнай, прыватнай ініцыятывы пры захаванні аптымальнага ўзроўню сацыяльных гарантый для насельніцтва.

У галіне знешняй палітыкі — замацаванне незалежнасці дзяржавы, здольнай заняць дастойнае месца ў сусветнай супольнасці. Мадэлі нашай дзяржавы могуць быць розныя. Гэта можа быць замкнутая нацыянальна-этнічная дзяржава, якая адраджаецца на каштоўнасцях толькі папярэдніх пакаленняў. Гэта можа быць славянскі выбар: трохкутнік Масква — Кіеў — Мінск альбо вось Мінск — Масква. Я — прыхільнік трэцяга варыянта: нейтральная, палітычна стабільная дзяржава, якая не вылучае яскрава ні ўсходніх, ні заходніх прыярытэтаў, а ў сваёй эканамічнай і палітычнай стратэгіі імкнецца быць кантактнай дзяржавай, крыніцай стабільнасці ў рэгіёне.

Сёння ў нас яўна выяўлены ўсходні прыярытэт, і мы гэта павінны ўспрымаць як рэалію. Мы павінны яго падтрымліваць, развіваць, але ён не павінен спыняць іншыя кантакты, у тым ліку кантакты з Захадам. Такое маё разуменне сутнасці гэтых праблем.

Што ў нас цяпер адбываецца? Я перакананы, што ў нас адбываецца тут крызіс улады. Гэта вельмі і вельмі небяспечна. Але ў адрозненне ад апазіцыі, у адрозненне ад многіх дэпутатаў я не лічу, што гэты крызіс — вынік несумленнай, нестараннай , халатнай, калі хочаце, злачыннай работы альбо злачынных падыходаў нейкіх індывідуумаў ва ўрадзе альбо ў Вярхоўным Савеце. Я лічу, што гэта ў значнай ступені абумоўлена інерцыяй мыслення, бо мы думаем па-старому пакуль што ўсе. І я час ад часу лаўлю сябе таксама на гэтай думцы. Раней была вельмі простая схема падрыхтоўкі кіраўнікоў і тых, хто займаў высокія пасады. Было дырэктыўна-планавае кіраванне. Партыя распрацоўвала дырэктывы, на падставе гэтых дырэктыў урад і Дзяржэканамплан распрацоўвалі план, мы ехалі ў Маскву (ну, не мы, я не меў да гэтага дачынення) і дабіваліся па пэўных пазіцыях пэўных пераваг. А пасля мы выконвалі гэты план. План быў святы. Было ясна, што трэба выконваць і як трэба выконваць. Трэба было дабівацца выканання плана. З вялікай натугай мы ўвесь час дабіваліся і дабіваліся яго выканання. Адпаведна мы выхавалі і кіраўнікоў. Яны выконвалі план, яны ездзілі, кланяліся, дабіваліся і дасягнулі вялікай, я б сказаў, кампетэнцыі ў гэтай галіне.

Сёння іншы падыход. Сёння схема такая — разлік, стымуляванне вытворчасці эканамічнымі метадамі і імкненне да рыначнай эканомікі. Я гэта гавару на падставе тых рашэнняў, якія мы прынялі. Не могуць старыя кіраўнікі працаваць па-новаму, але і іншых у нас няма. І часу ў нас няма, як у свой час у біблейскага Майсея... Выкарыстоўваючы сучасныя камунікацыйныя сродкі, мы павінны зараз весці справу такім чынам, каб перажыць гэты перыяд, у нас павінна адбыцца змена цяперашняга пакалення кіраўнікоў. Я не маю на ўвазе канкрэтных асоб, але змена павінна адбыцца як мага хутчэй усяго падыходу. І ўмовы такія ёсць. Мне здаецца, мы маем усе ўмовы для таго, каб змяніць менталітэт кіраўніцтва. Ніякая рэвалюцыя тут да добрага не прывядзе, таму што мы прывядзём да ўлады новых, але яшчэ больш крыклівых, толькі менш кампетэнтных людзей. Гэта маё перакананне. Трэба ўвогуле вучыцца развіваць кантакты з тым асяроддзем, у якім рэгуляванне заснавана на рыначных прынцыпах.

Наступная пазіцыя. Мы молімся на ВПК, большасць у гэтай зале за ВПК. Зразумела, працэнт вайскоўцаў у нас значна большы, чым у народзе, і працэнт прамыслоўцаў значна большы. Я яшчэ падкрэсліваю тое, аб чым гаварыў у дакладзе: зніклі кампаненты звышдзяржавы ў Расіі... Мы павінны мяняць тую прамысловасць, якая была дадаткам гэтых кампанентаў. Не трэба забяспечваць паўсвету ракетамі і паўсвету танкамі і будаваць падводныя лодкі з той інтэнсіўнасцю. Мы павінны канверсаваць прамысловасць, іншага шляху няма.

(Заканчэнне на 2 стар.)

● СО СЛОВОМ БОЖЬИМ

## ВОИСТИНУ ВОСКРЕС

ОТЕЦ ГЕОРГИЙ,
СВЯТО-ПЕТРО-ПАВЛОВСКИЙ СОБОР.

*Великое чудо случилось 2000 лет назад. Божий сын пришел на Землю, разделив все трудности человеческой жизни, и научил нас как надо жить. Но на Пасху мы празднуем еще большее чудо, еще большую радость. Иисус Христос пострадал на кресте и умер, как человек. Но он победил смерть. Он оказался сильнее смерти, воскрес и нам всем открыл путь к вечной жизни. Правда, до воскрешения Иисуса Христа были случаи, когда некоторые святые оживляли мертвых. Но это были случаи возвращения к временной жизни. Эти люди потом опять умирали. Оживали они не сами по себе, а по молитве тех, кто их воскрешал. А Христос воскрес сам, силой своего Божества, и воскрес навсегда. Его воскресение показало, что жизнь с Богом сильнее смерти.*

*Велика тайна воскресения Христова. Даже ученики Иисуса Христа не сразу могли поверить в то, что Он воскрес, не узнавали Его, когда Он являлся им, пугались. А враги Его сразу начинали рассказывать то, что Иисус вовсе и не воскрес, что, дескать, это ученики украли его тело. Но снова и снова, в течение 40 дней Иисус являлся своим ученикам, беседовал с ними, ел с ними, давал им возможность дотронуться до Него. Он был не такой как прежде, каким они Его знали до воскресения. Он являлся в комнате, где были заперты двери, являлся в разных местах страны Галилеи, а после 40 дней вознесся на небо.*

*Христианская вера, христианская церковь были основаны именно на вере в то, что Иисус Христос умер за грехи людей и воскрес из мертвых. Это твердо знали все первые христиане, и знали это от живых свидетелей, видевших своими глазами воскресшего Христа. Никакие попытки говорить, что это неправда, что Христос не воскрес не могли уничтожить эту веру христиан. «Мы не можем не говорить того, что видели и слышали», — заявляли они. Эта вера росла и укреплялась по всему миру, живет и сейчас, 2000 лет спустя.*

*Пасха — слово еврейское и означает «исход», «избавление», «освобождение». В Ветхом Завете Священного Писания, записанном до Рождества Христова, праздник Пасхи был воспоминанием о выходе евреев под водительством пророка Моисея из Египта, избавлении израильского народа от мучительного египетского рабства.*

*Новозаветная Христова Пасха заменила ветхозаветную. Празднуя Христову Пасху, мы также празднуем избавление от рабства, но рабства другого рода — рабства греха, избавление от власти греха. Господь Иисус Христос принес нам своим воскрешением из мертвых.*

*Уже первые христиане называли Пасху праздником всех праздников, великим днем Господа. И, встречаясь в день праздника, приветствовали друг друга словами:*

*— Христос воскрес!*

*— Воистину воскрес!*

● НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

## МІНІСТР КУЛЬТУРЫ ДУМАЕ ПАДАЦЬ У АДСТАЎКУ, КАЛІ...

МАРГАРЫТА СТАРЫХ

Надзвычайнае здарэнне звязана з захопам на другі дзень Вялікадня вернікамі-каталікамі касцёла Святога Роха, што на Залатой Горцы.

Доўгія гады касцёл Святога Роха, як і большасць храмаў, быў у занядбанасці і паціху руйнаваўся. Калі Міністэрства культуры вырашыла адрэстаўрыраваць касцёл і ператварыць яго ў Залу камернай музыкі Белдзяржфілармоніі, гэта каштавала вялікіх намаганняў (рэстаўрацыя працягвалася сем гадоў) і 19,5 мільёна рублёў, вялікіх па тым часе грошай. Не адзін год у гэтай канцэртнай зале для мінчан і гасцей беларускай сталіцы гучала цудоўная музыка, абуджаючы пачуцці высокія і добрыя. І вось...

Сарвана некалькі канцэртаў. Сярод іх — канцэрт фартэпіяннай музыкі з твораў вялікага кампазітара сучаснасці С.Рахманінава, якому цалкам прысвечаны музычны фестываль «Мінская вясна», што ў гэтыя дні праходзіць у беларускай сталіцы. Студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі і вучняў Музычнага Ліцэя, як і іншых артыстаў, ваяўніча настроеныя бабулькі не пусцілі на парог. Можна толькі ўявіць, што за пачуцці давялося перажыць юным музыкантам, якія доўга рыхтаваліся да гэтага канцэрта — падзеі ў іх жыцці...

А вось пачуцці і пазіцыя міністра культуры Я.Вайтовіча, які запрасіў журналістаў на прэс-канферэнцыю з нагоды гэтага надзвычайнага здарэння, былі зусім акрэсленымі.

— Парушаны адразу чатыры законы і дамоўленасць паміж Белдзяржфілармоніяй і адной з каталіцкіх парафій, — адзначыў міністр. — Я згодны: мы можам перагледзець гэту дамоўленасць і даць больш часу для набажэнстваў. Белдзяржфілармонія для гэтага і запрашала кіраўніцтва парафіі, каб скласці графік, але... Больш таго, мы рэальна глядзім на рэчы, і з цягам часу, калі будзе знойдзена іншая зала ці пабудавана новая (што на сённяшні дзень справа вельмі цяжкая), касцёл будзе цалкам перададзены вернікам. І кіраўніцтва парафіі гэта ведае. Але пакуль не трэба забываць, што на сённяшні дзень касцёл Святога Роха — гэта канцэртная зала і штодзённыя вечэрнія набажэнствы проста немагчымыя. А таму не трэба нагнятаць абстаноўку, утвараць супрацьстаянне культура — вернікі. На жаль, гэта не адзінкавы выпадак, аналагічная сітуацыя адбылася ў Вілейцы. З Івянецкага касцёла вернікамі былі выкінуты каштоўныя кнігі па гісторыі і культуры, што там захоўваліся... У Раўбічах, дзе пасля рэстаўрацыі касцёла быў створаны цудоўны музей, была спроба таксама сілай захапіць будынак. Каталіцкае кіраўніцтва тлумачыць гэтую агрэсіўнасць воляй бабулек, але ж яны, гэтыя бабулькі, без іх бласлаўлення і кроку не зробяць. І сапраўды, што ім да тых каштоўных кніг, людзям з-за мяжы, якія не ведаюць ні мовы, ні культуры нашай... Яны нясуць поўную адказнасць за тое, што ўтварылася і ў касцёле Святога Роха. Дарэчы, я быў учора там: сядзяць бабулькі, а набажэнства ідзе ў запісу на польскай мове. Між тым, калі ішла дамоўленасць аб набажэнствах у касцёле Святога Роха адзін з галоўных момантаў, які вылучала духоўнае кіраўніцтва — маўляў, наша парафія беларускамоўная. Дзіўна толькі, чаму беларускамоўных вернікаў заганяюць у такі маленькі храм, калі ёсць і паболей.

Мы ўносім прапанову перагледзець рэгістрацыю гэтай парафіі, перагледзіць візы святароў з-замяжы, якія былі выдадзены яшчэ з дазволу прэзідэнта М.С.Гарбачова. Маем усе падставы звярнуцца з іскавай заявай у суд па тых стратах, якія мы панеслі.

На прэс-канферэнцыі, у якой акрамя міністра культуры бралі ўдзел намеснік міністра Ул.Гілеп, дырэктар Белдзяржфілармоніі Ул.Ратабыльскі, пісьменніца В.Іпатава і іншыя, закранаўся шэраг аспектаў праблемы, што стаіць за надзвычайным здарэннем у касцёле Святога Роха. Ніхто з прысутных не адмаўляў таго, што храмы павінны набыць свой пачатковы статус. Але трэба глядзець на рэчы рэальна. На добрую трэць база культуры складаецца з прыстасаваных да яе патрэб касцёлаў і цэркваў, якія дзякуючы гэтаму і захаваліся ад поўнага знішчэння ці занядбанасці. І ў адноімгненне, рэвалюцыйнымі метадамі памяняць уладарнікаў значыць толькі прынесці шкоду агульнай справе — нацыянальнаму Адраджэнню і Культуры, без якіх немагчыма і адраджэнне Веры, Духоўнасці. Дарэчы, духавенства заўсёды патраніравала культуру, ды і гісторыя культуры цесна звязана з гісторыяй рэлігіі. Культура і царква аднолькава пацярпелі ад савецкай улады,абедзве апынуліся ў жабрацкім стане. Канфрантацыя Культуры і Веры, канфрантацыя розных канфесій могуць прывесці да катастрофы.

Вось чаму былі зразумелымі словы міністра культуры Я.Вайтовіча, сказаныя ў канцы прэс-канферэнцыі:

— Я афіцыйна заяўляю: калі гэта беззаконне будзе працягвацца, я, як сумленны чалавек, падам у адстаўку...

Як усім нам патрэбна цярпімасць і паразуменне! Без іх мы не можам вярнуцца да чалавечых норм узаемаадносін, да тых запаведзяў, якія пакінуў нам Ісус Хрыстос, без якіх мы па-ранейшаму далёкія ад Бога.



## ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ!

**«ДОБРЫ ВЕЧАР» БЯСПЛАТНА. КОЖНАМУ**

Нягледзячы на тое, што падпісная цана на «Добры вечар» у параўнанні з іншымі штодзённымі выданнямі самая нізкая,

рэдакцыя тым не менш вырашыла ўвесці яшчэ адну льготу для сваіх падпісчыкаў — **даць ім права на змяшчэнне бясплатных прыватных аб'яў.**

Пры гэтым

кожны, хто падпішацца на «Добры вечар» **да 20 красавіка** ўключна,

зможа змясціць **3 бясплатныя аб'явы,**

да 5 мая — 2,

да 20 мая — 1.

УЛІЧЫЦЕ,

што кошт аднаго радка прыватнай аб'явы

па сённяшніх расцэнках

(а яны яшчэ вырастуць!)

складае **500 рублёў.**

Такім чынам,

для кожнага,

хто выпіша «Добры вечар» **на II паўгоддзе 1993 года,**

падпіска акажацца не толькі бясплатнай,

але і выйгрышнай.

У вас ёсць шанц. Спяшайцеся!

**Наш індэкс — 63931.**

Падпісная цана на 6 месяцаў — 420 руб.

Ф. СП-1

Министерство связи РБ
Министерство информации РБ
"Белсоюзпечать"

АБОНЕМЕНТ на газету 63931 (индекс издания)

ДОБРЫ ВЕЧАР — Количество комплектов:

на 1993 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия инициалы)

ПВ | место | литер — на газету 63931

ДОБРЫ ВЕЧАР

Стоимость: подписки ___ руб. ___ коп.; переадресовки ___ руб. ___ коп. — Количество комплектов:

на 1993 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия инициалы)

ЛИНИЯ ОТРЕЗА

# У ГЭТЫХ АБСТАВІНАХ ЁСЦЬ АДЗІН ЗАХАД — ТРЭБА ЗАПЫТАЦЦА Ў НАРОДА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Наступнае пытанне. Гэта пытанне, якое атрымала вялікую крытыку. Пытанне па Канстытуцыі, па прэзідэнту, па падзяленню ўлад. Я падкрэсліваў — існуе ўнутраная супярэчлівасць вынікаў нашага рэйтынгавага галасавання. Трэба над гэтым думаць. Я не гавару, як вырашаць пытанне. І за што ж мяне крытыкаваць: я выказваю прапанову прааналізаваць сітуацыю папярэдне, прэвентыўныя меры прыняць. А мне кажуць тут: абсалютныя вынікі галасавання ёсць — вось і кіруйся імі.

Ахова здароўя. І тут была крытыка. Я, прабачце, не «кідаўся» на міністра аховы здароўя. Я лічу толькі, што гэта міністэрства ўтварыла структуры, якія аддалі на водкуп, падкрэсліваю, на водкуп забеспячэнне людзей лекамі паўпрыватным, паўкамерцыйным, паўдзяржаўным структурам. А што да асобы міністра, дык гэта вельмі паважаны мною і, здаецца, адзін з сумленнейшых кіраўнікоў у нашым урадзе.

Але зразумейце мяне: калі камерцыйным структурам даюцца грошы, валюта даецца і з яе яны здымаюць свой працэнт, але дрэнна вырашаюць гэта пытанне, — міністэрства вінавата, факт. І трэба выпраўляць там сітуацыю.

Культура, навука, мова. Паважаныя народныя дэпутаты! Я не ведаю, ці існуе дзе-небудзь у свеце парламент, які б так ставіўся да нацыянальнай мовы, да дзяржаўнасці. На каго мы нападаем? Задумайцеся над гэтым. У свой час Расія гаварыла па-французску. У свой час Расія лічыла, што няма ў яе сваіх талентаў і вучоных. Успомніце Ламаносава... «Ода на день восшествия на престол...» «Что может собственных Платонов и быстрых разумом Невтонов...» Чаму ж мы забываемся пра нашу беларускую гісторыю? Чаму мы затоптваем гэта ў гразь? Адкуль гэта варожасць да беларускасці? Чаму мы ўстаём супраць гэтага? Дарэчы, папярэдні Вярхоўны Савет, паважаць давайце яго будзем, адно з лепшых рашэнняў прыняў пра гэта.

Далей. Ніколі, нідзе не было ў мяне ніякага супрацьстаяння ніякай эканамічнай інтэграцыі, ніякаму эканамічнаму саюзу, тут у мяне стопрацэнтнае разуменне ўрада і падтрымка ўсіх гэтых пазіцый.

Цяпер асобны артыкул — «Знешняя палітыка».

Тут мяне могуць крытыкаваць многія, могуць патрабаваць мяне зняць. І Кебіча тут кожны дэпутат таксама можа патрабаваць зняць. А калі адна заўвага ў адрас міністра замежных спраў, дык, ведаеце, — пажар, маўляў, не перашкаджайце нам працаваць. Як гэта разумець? Хто вызначае палітыку, Вярхоўны Савет ці Міністэрства замежных спраў? Схема правільная: вызначае палітыку Вярхоўны Савет, праводзіць у жыццё — Міністэрства замежных спраў. І светлы вобраз Андрэя Грамыкі няхай для вас будзе, так сказаць, узнесены на п'едэстал — ён праводзіў заўсёды любую палітыку, якую вызначаў ЦК КПСС. Ён беларус, дарэчы. Якую палітыку? Грамыка лічыўся ў свеце самым лепшым праваднікам самай дрэннай палітыкі... Гэта такая яго характарыстыка, сусветная.

Я не наіўны чалавек і лічу, што структура наша — гэта інструмент правядзення палітыкі. Ведаю, каму падпарадкаваны і міністр замежных спраў. Але калі я гавару на гэту тэму са Старшынёй Савета Міністраў, ён мяне разумее, разумее наконт таго, што тут трэба рабіць нейкія карэктывы. Я магу пералічыць, хто займаецца ў нас замежнымі справамі. Пытаннямі эканомікі — Мясніковіч, Косцікаў. Пытаннямі ЧАЭС, гуманітарнай дапамогай займаецца Кенік. Пытаннямі культуры — Дзямчук, дарэчы, ён часам падпісвае такія пагадненні, пра якія не ведае ні Вярхоўны Савет, ні Міністэрства замежных спраў... Я мог бы сказаць яшчэ і пра іншых кіраўнікоў. Дык чаму ж вы скардзіцеся?

Наступная пазіцыя. Не было дэмаршаў? Ды вы і парадзілі самы вялікі дэмарш у свеце, які толькі можна было парадзіць. Таму што вы ў адпаведнасці з законам не настаялі на своечасовай ратыфікацыі, не прадпрынялі адпаведных захадаў... Пасылаліся шматлікія дэлегацыі за мяжу. Я не здзіўлены, што былі вялікія расходы: трэба было ўладкоўваць многія пытанні і ў Вене, і ў Нідэрландах, і ў іншых месцах. Не трэба рабіць заяў аб тым, што ў Сеуле вы адкрыеце пасольства, калі побач вялікі Кітай. Я магу працягваць. І ці трэба пытацца, як неабходна рэагаваць на выступленне Козырава? Зленка не пытаўся, ён адразу выступіў, адрэагаваў. Вось такая палітыка ў нас. Не трэба асуджаць нас за прызнанне Македоніі. Гэта рашэнне, якое вы павінны праводзіць у жыццё. Я лічу, што тут славянская салідарнасць. І там няма канфліктаў, можа, дзякуючы таму, што і мы прызналі. Але мы прызналі тады, калі Расія прызнала...

Хочацца закрануць і культуралагічны аспект. Ведаеце, можна выступаць многа дзе, але можна і даручыць тым, хто ў гэтай справе лепей разбіраецца. А папракаць мяне ва універсітэцкай адукацыі я проста не дазволю, таму што я, дарэчы, не праходзіў стажыроўку ў таварыстве па барацьбе за цвярозасць альбо ў ідэалагічным аддзеле гаркама. (Шум у зале).

Цяпер пра калектыўную абарону. Я лічу, галоўная памылка Міністэрства замежных спраў — гэта не навуковы, не заснаваны на міжнародным праве падыход да калектыўнай абароны. У чым тут справа? Са жніўня 1991 года, калі мы па сваёй ахвоце, па свайму жаданню аб'явілі ўсяму свету, што імкнёмся да нейтралітэту, то трэба было б ведаць і тым экспертам, якія ў вас, і вам, Пётр Кузьміч, што існуе Венская канвенцыя 1969 года, якая абавязвае дзяржаву прытрымлівацца падпісанага дагавора, прытрымлівацца ўзятых абавязацельстваў. Чаму ж мы не павінны іх прытрымлівацца? Змена можа толькі тады быць, калі змяніліся ўмовы. Няўжо нам пагражаць пачалі болей цяпер? Вайскоўцаў я разумею, яны могуць сказаць, што нам і Польшча пагражае, і Літва, і Латвія, і Расія, а Украіна — дык у першую чаргу. Мы ж павінны быць прыкладам не эскалацыі, павелічэння вайсковых падаткаў, вайсковых расходаў... Калі мы зараз прымем новую, фактычна ваенную дактрыну, адыдзем ад нейтралітэту, дык першай рэакцыяй Польшчы будзе: ну, калі яны так, дык жа і нам трэба мацнейшымі быць. І пайшла гонка.

А я думаю, што мы маглі б ісці па шляху звароту да дзяржаў, да той жа Польшчы, да краін Прыбалтыкі, да Румыніі, да Малдовы: маўляў, «прыміце нейтральны стан, заявіце аб тым, што ў вас няма прэтэнзій да суседзяў». І я думаю, што мы дасягнулі б вялікіх поспехаў на гэтым шляху. Але тое, што ў НАТО дзівяцца, што мы не ідзём на калектыўную абарону, што трэба было б ісці, — дык яны ж без работы застануцца, калі ў нас не будзе тут саюзу.

Таму я лічу, што лепшай гарантыяй нашай бяспекі з'яўляюцца двухбаковыя пагадненні з Расіяй. Такія пагадненні ў нас ёсць. Значна больш складана выконваць гэтыя пагадненні ў рамках СНД з агульным кіраўніцтвам, заўважце, кіраўніцтвам узброенымі сіламі. Заўважце, які ў нас падыход. Мы адразу занялі, я лічу, вельмі дакладную пазіцыю. Мы сказалі так: у нас, на нашай тэрыторыі, няма войскаў СНД... У нас ёсць войскі Расіі, мы прызнаём за імі юрысдыкцыю Расіі і вядзём з Расіяй перамовы. Гэта ўсё спраціла: не трэба збірацца ва ўсіх гарадах СНД, а трэба весці перагаворы толькі з урадам Расіі, з Міністэрствам абароны Расіі. Паглядзіце, заключылі шэраг дагавораў, ідзём паслядоўна да вываду войскаў. Замежная дапамога ёсць. Дарэчы, і цяпер пацверджана Клінтанам: для гэтых войскаў будуць будавацца дамы ў Расіі. Мы вырашаем гэта пытанне.

Мы павінны зараз прыняць палітычнае рашэнне, таму што ўсе дагаворы ёсць. Я прыгадаю яшчэ, што ў Кіеве ў 1991 годзе мною падпісана пагадненне (з адной заўвагай) на два гады. Гэта значыць, да 20 сакавіка 1994 года яно дзейнічае, яно ўступіла адразу ў сілу. Мы знаходзімся ў стане калектыўнай абароны, але мы маем намер выходзіць (паступова), таму што цяпер мы не можам не знаходзіцца і мы знаходзімся ў гэтым стане. Справа вось у чым: справа ў палітычнай заяве Вярхоўнага Савета, што мы змяняем наш палітычны курс. Толькі так гэта будзе прынята ў свеце. Што рабіць у гэтай сітуацыі, калі рубам паўстала пытанне, палярна паўстала... Кузьмянкоў нават прыгадаў Ніла Гілевічу з гэтай нагоды, што ён у 1953 годзе напісаў верш. Я быў тады студэнтам і прытрымліваўся такіх жа перакананняў. Ці ж можна папракаць за гэта! Пасля ўжо 1956 год паказаў, што такое Сталін. Ці гэта палітычныя аргументы? Я ніколі б так не паставіў пытанне.

Паважаныя народныя дэпутаты! Я не пераканаю большасць Вярхоўнага Савета ў тым, каб гэта рашэнне не прыняць. Я ведаю, што ў мяне не хопіць аргументаў, а ў вас занадта вялікая інерцыя. Вы хочаце ісці на гэты крок! Вы сапсуяце нашы адносіны гэтым самым крокам і з Ельцыным, і з Расіяй, таму што гэта падтрымка пэўных сіл у Расіі, і не тых сіл, якія дэмакратычныя. Я лічу, што ў гэтых абставінах ёсць адзін захад: трэба запытацца ў народа. (Апладысменты).

Я ўношу прапанову: «У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» прашу Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняць рашэнне аб правядзенні ў маі 1993 года абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму па вызначэнню характару нейтралітэту Рэспублікі Беларусь. Прашу ўнесці ў бюлетэнь для правядзення рэферэндуму пытанне: «Ці падтрымліваеце вы нейтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмову ад уступлення Рэспублікі Беларусь у любыя ваенна-палітычныя саюзы з іншымі дзяржавамі альбо іх аб'яднаннямі?»

І хачу вам адказаць адразу: калі народ скажа, што мы павінны быць у гэтым саюзе, я лічу тады, што не маю маральнага права заставацца Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Адкажу і вам, паважаны народны дэпутат Ганчар: я адразу падам у адстаўку. (Апладысменты). Але я хачу, паважаныя народныя дэпутаты, каб у тых, хто тут выступае за такі саюз, хапіла мужнасці зрабіць гэтак жа. Калі мая акруга, Адоеўская № 44 у Мінску прагаласуе за ўступленне ў такі саюз, я складу з сябе паўнамоцтвы народнага дэпутата, таму што я не разумею, што думаюць мае выбаршчыкі. Але я перакананы, што мае выбаршчыкі выступяць супраць такога саюзу. Я спачуваю народнаму дэпутату Сяргею Міхайлавічу Котаву. Ён абраны ад той акругі, дзе пераважна вайскоўцы. Яны выступяць, відавочна, за такі саюз. Трэба ўлічыць, што могуць быць такія сітуацыі, але гэта не парушае ні маіх адносін да вас, ні вашай шчырасці, ні вашай сумленнасці. Будуць такія калізіі, будуць розныя сітуацыі.

Але ж пара нам запытацца ў народа, што і як рабіць. Я яшчэ прапанаваў бы, каб мы прынялі зварот да краін: Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Румыніі, Малдовы, магчыма, Венгрыі, магчыма, яшчэ некаторых краін, каб яны перайшлі ў стан нейтральных дзяржаў і мы ўтварылі ў Еўропе пояс нейтральных дзяржаў, які быў бы гарантыяй нашай бяспекі, гарантыяй стабільнасці ў Еўропе і прыкладам для свету. У Беларусі цяпер добры міжнародны імідж, мы яго заваявалі сумленнай працай, у тым ліку ў гэтай зале. І я лічу, што трэба гэты момант выкарыстаць.

## • НОВОСТИ РЕСПУБЛИКИ

В пригородных гомельских поездах появились молодцеватые парни с опознавательными знаками фирмы «Интерюст». Это недавно созданное в городе независимое розыскное частное предприятие заключило договор с локомотивным депо на охрану и защиту пассажиров. В «Интерюсте» два отдела: юридический и детективный. Первый занимается правовым обслуживанием, второй — поиском пропавших без вести и погибших военнослужащих иностранных армий в годы Великой Отечественной войны. И, как выяснилось, помогает в борьбе с преступностью.

* * *

*Пяти тысячам барановичским зрителям, которые посмотрели бы американский фильм «Иисус», к билету прилагалась бесплатная книга с таким же названием. Но даже в этом случае предложение превысило спрос: ленту посмотрело лишь чуть более 1,5 тысячи зрителей.*

*Цена на билет была по нынешним временам почти что символическая — 45 рублей.*

* * *

На Горецком маслосырзаводе после переработки сырья оставался перегон, которому раньше не находили применения. На заводе не захотели мириться с таким положением и решили путем вторичной переработки получать из перегона кефир и творог. И, представьте себе, — получают. За счет этого, во-первых, магазины города заполняются дефицитными молочными продуктами, а завод только по предварительным подсчетам получит около 2 миллионов рублей прибыли за год.

*РИД, БЕЛИНФОРМ.*

## • ЕШЬТЕ НА ЗДОРОВЬЕ!

Ирина **НОЗДРИНА**, Фото Андрея **ШЕСТОВСКОГО**, БелаПАН.



**Дети всегда остаются детьми. И им — веселым и грустным, больным и здоровым — хочется праздника, а на нем — побольше вкусных вещей. Поэтому конца не было радости, когда детям, лежавшим в урологическом отделении 4-й клинической больницы г.Минска, привезли апельсины, бананы и яблоки. Это — подарок Белорусского благотворительного фонда «Дзецям Чарнобыля» для всех захворавших малышей. И высыхали слезы на глазах, и больничные палаты озарились улыбками...**

## • КОРОТКО

Плодотворному сотрудничеству между Беларусью и Финляндией призван содействовать деловой форум «ФИНБЕЛАРУСЬ-93», который состоится в Минске с 27 по 29 апреля. Его организаторы — Торгово-промышленная палата республики и Ассоциация внешней торговли страны Суоми — провели 6 апреля пресс-конференцию, посвященную предстоящему событию.

На ней отмечалась необходимость восстановления весьма выгодных ранее связей. Достаточно сказать, что в последнее время экспорт товаров из этого государства почти в три раза превысил наш импорт, что далеко не соответствует возможностям, которыми располагают обе стороны. Поэтому на предстоящий форум возлагаются большие надежды по возобновлению старых и налаживанию новых контактов. В нем примут участие представители правительства, а также бизнесмены почти 50 фирм Финляндии.

В рамках мероприятия будут организованы выставки, симпозиумы, семинары и презентации финских фирм, где деловые круги Беларуси познакомятся с различными достижениями зарубежных гостей в машиностроении, строительстве и производстве стройматериалов, целлюлозно-бумажной и деревообрабатывающей промышленности, сельском хозяйстве и других областях народного хозяйства. Но основная задача делового форума не только в знакомстве с успехами дружественной страны. Прежде всего он поможет выработать новую концепцию укрепления взаимовыгодных связей между Финляндией и Беларусью.

*БЕЛИНФОРМ.*



## • ПОЛЕМИКА

# О ТЕОРИИ ЭЙНШТЕЙНА, «СОВЕТСКОМ ИНЖЕНЕРЕ» И ТОРМОЗЕ НА ПУТИ К ТОРЖЕСТВУ КОММУНИЗМА

**ДМИТРИЙ ЖУКОВ**, старший преподаватель БГПА, член Объединенной дем.партии Беларуси.

***Бытие наше не налаживается еще и потому, что никак не очистится сознание от вредных, но прилипчивых идей о будто бы элементарно простом и мгновенном переустройстве жизни по мудрому рецепту очередных толповодителей. Очень и очень многие из них, между прочим, надеются на «щучье веленье», прибегая к дешевым методам политической борьбы с соперниками.***

Вот и получается, что подстрекательские мысли и сведения, нет-нет, да появляются даже там, где их быть не должно: например, в газете Белгосполитехакадемии «Советский инженер» («СИ»). 5 февраля 1993 г. в ней, например, оказалась перепечатанная из санкт-петербургских «Приморских новостей» статья «Зачем Эйнштейн обманул человечество?» Посчитав такую публикацию проявлением красно-коричневой идеологии и политической провокацией, я предпринял соответствующий демарш, передав в редакцию «СИ» свою заметку. Но редактор Игорь Костевич раздраженно мне заявил, что не собирается будоражить людей политическим заявлением некоего Жукова, а материал «об Эйнштейне» с политикой не имеет ничего общего и критиковать его нужно с научной точки зрения, — так что дилетантские потуги не разбирающегося в теориях Эйнштейна автора этих строк никому не интересны. Снимаю шляпу перед великим физиком и журналистом Игорем Костевичем, но все же рискну заняться критиканством, не совсем, мягко говоря, владея теориями Альберта Эйнштейна.

Сначала о политике в «СИ». Вот некоторые примеры. 15 января 1993 г. сотрудники БГПА читают о встрече избирателей с народным депутатом Беларуси Олегом Трусовым: «... В протоколе собрания... было указано О.Трусову, что в случае невыполнения требований избирателей Клуб (избирателей — Д.Ж.) начинает кампанию за отзыв его из Верховного Совета РБ»... И т.д. В том же номере читаем такое: «Не очень приветливо встречали студенты представителей Народного фронта, делающих акцент в своих выступлениях на националистическом поведении». 5 марта 1993 года — объявление с призывом к сотрудничеству и вступлению в создаваемую Партию социальной справедливости (ПСС), а также приглашение коммунистов, еще имеющих партийные билеты, подтвердить свое членство в Коммунистической партии Беларуси (КПБ). Причем первое подано под шапкой «Демократам», второе — «Коммунистам». Это что, вновь вызывающее противопоставление людей разных политических ориентаций? Впрочем, полагаю, что ПСС — отделение коммунистической, а КПБ — компартия Белоруссии, т.е. БССР. Выходит, политика в «СИ» все-таки есть. Понятно — прокоммунистичес кого свойства.

«СИ», кстати, никогда иной политической ориентацией не отличался. Худо, что красный цвет породнился с коричневым в статье «об Эйнштейне», и это, к сожалению, не вызвало видимой негативной реакции академической общественности.

**Размером почти в четверть номера названный материал начинается так:**

**«Десятки ученых, которые попробовали опровергнуть теорию относительности Эйнштейна, оказывались либо в сумасшедших домах, либо объявлялись антисемитами. Они заканчивали свою борьбу с Эйнштейном, как правило, в тюрьмах».**

Следует заметить, что никаких редакционных комментариев к «сенсационным» разоблачениям Альберта Эйнштейна нет. Значит, редакция с ними согласна. И не только она. По словам корреспондента газеты Василия Прокопьева, были только положительные отклики. Разумеется, если бы столь беспардонный опус, в котором один абзац противоречит другому, был помещен, скажем, в большевистском издании «Мы и время», на него не стоило бы обращать внимание. Но он, увы, навеки остался в газете Белорусской государственной политехнической академии, где, кстати, работают достаточно квалифицированные физики, математики и философы. Редакция могла бы посоветоваться со специалистами, если бы пожелал И.Костевич, но...

В рассматриваемой статье говорится:

**«Классу имущих всегда будет выгодно затормаживать прогресс, чтобы производительность труда в мире находилась на таком уровне, который гарантирует дефициты. Ну, а как можно богатеть на дефицитах, все знают. Убери же все тормоза в научно-техническом прогрессе (в том числе и теорию относительности Эйнштейна) — в производительности труда произойдет такой фантастический скачок, который отменит не только дефициты, но и отживающий капиталистический способ хозяйствования. Он уйдет в прошлое, как в свое время ушел в том же направлении рабовладельческий строй. Ну, а потеряв деньги, богатые потеряют возможность управлять миром в своих интересах».**

Каковы философские перлы! Эйнштейн — тормоз на пути торжества коммунизма, а? Да видимо еще — примкнувшие к нему демократы!

Последняя выдержка из статьи «об Эйнштейне»: «Странно и то, что теорию Эйнштейна практически невозможно понять», — лишний раз подтверждает слова Цицерона: «Каждому человеку свойственно ошибаться, но никому, кроме глупца, не свойственно упорствовать в ошибке».

Поскольку, к сожалению, многие могут принять написанное в «СИ» об Эйнштейне за чистую монету, сошлюсь на мнение работающего в БГПА профессора, доктора философских и кандидата физико-математических наук А.Карлюка. Анатолий Семенович считает, что рассматриваемый материал показывает безграмотность и полную некомпетентность его авторов, а «СИ» позволил абсолютно ненужную выходку, вызывающую недоумение. Само название одиозной статьи говорит за себя и оскорбительно для всего человечества, которое, видите ли, легко может обмануть один человек. Важно отметить, подчеркнул Анатолий Семенович, что Эйнштейна травили фашисты и фашиствующие физики. О нравственности Эйнштейна говорит вся его жизнь. Великий физик был одним из тех общественных деятелей, которые организовали помощь голодающим Поволжья, в 30-е годы он выступал против фашизма и войны, в 40-е — против применения ядерного оружия, а за несколько дней до смерти подписал написанный Бертраном Расселом «Манифест мира».

Что касается критики теории относительности, то ничего страшного (это не мое открытие) в ней нет, если ведется она с научной и, в частности, философской точек зрения. Не секрет, что после получения всеобщего признания теории относительности было немало людей, в том числе и физиков, являвшихся ее активными противниками. И в настоящее время нередко можно услышать против нее возражения. Но, по словам известного академика В.А.Кириллина, «в большинстве случаев это относится к людям, недостаточно знакомым с физикой». О критике теории Эйнштейна можно прочитать и в книге американского профессора Л.-Р.Грэхема «Естествознание, философия и науки о человеческом поведении в Советском Союзе» (М., 1991). Но научная критика (а без нее нет науки) не имеет ничего общего с политической провокацией санкт-петербургских авторов, ринувшихся в бой с самим Эйнштейном, который, между прочим, за бредовые спекуляции научных и политических пигмеев не может нести никакой ответственности ни перед кем.

Вещи следует называть своими именами, дабы в будущем не кусать себе локти. Красно-коричневые, по-моему, — это политические упрощенцы, безгранично уверенные в том, что сыто-руководящую жизнь для себя можно создать за счет ограбления, а затем — рабского труда других. И хоть идолы, которым они поклоняются, могут быть разными — Ленин, Сталин, Гитлер и т.п., — цели и последствия их действий одинаковы: установление тоталитарной власти путем ограничения гражданских свобод вплоть до их уничтожения. И всегда — насилие, кровь, смерть. Не забудем: по Марксу-Ленину критерий истины — практика.

Корни идейного согласия красных и коричневых глубоки. Общим врагом коммунистов и фашистов в свое время стала буржуазная демократия. К чему ведут дело национал-коммунисты (в условиях Беларуси это, в основном, сторонники советской империи) становится ясно, если вспомнить историю и оглянуться окрест. Причем они со злорадством подвергают общество политическим перегрузкам — ведь именно тогда их популярность возрастает.

**В «Известиях» от 27 марта читаем: «Гитлер, который, по его словам, многому научился у марксизма, восхищался: «Сталин по-своему гениальный парень... Его экономическое планирование всеохватывающе, оно может быть превзойдено только нашими 4-летними планами». Бухарин в свою очередь отмечал в 1923 году: влияние фашистов на массы — «полная копия большевистской тактики».**

А не пойти ли дальше, господа-товарищи Костевич и Прокопьев? Если вместе с теорией относительности Декретом Советской власти отменить открытия Бора, Больцмана, Авогадро, Максвелла, Резерфорда и других великих ученых, но реабилитировать, скажем, незабвенного Лысенко? А вдруг тогда немедленно наступит последняя фаза коммунизма — рай земной для «наших»! Особенно, если под руководством КПБ начать новую кампанию под звон и грохот пустых кастрюль и сковородок, освещая это историческое событие в скромной многотиражке с громким названием «Инженер Союза Советских Социалистических Республик».

## • Я ВАМ ПИШУ...

# В ЧЬИХ ИНТЕРЕСАХ?

ВАЛЕРИЙ ТОЛКАЧ.

***ЖИЗНЬ НАУЧИЛА** меня во всех происходящих событиях искать первоисточник, какую-либо заинтересованную сторону. И вот сейчас я приглашаю читателей нашей газеты помочь мне найти первопричину истории, происшедшей в новом минском микрорайоне «Малиновка».*

Сама история такова. Во время строительства и заселения района туда проводились автобусные маршруты. Начало положил маршрут под символичным номером «1». Он соединил железнодорожный вокзал (точнее, автостанцию «Дружная») с кольцом, расположенным на улице Есенина (р-н «Малиновка-4»).

По мере роста всего района увеличивалось и число маршрутов. Их стало четыре: «1», «65», «75», «104». Но «первый» оставался единственным, доставляющим жителей «Малиновки» на вокзал и к метро.

Не менее важным отличием этого маршрута от других вышеперечисленных являлась и его относительная частота и обязательность, что, впрочем, характерно почти для всех видов транспорта Минска, имеющих конечной остановкой железнодорожный вокзал.

С расширением «Малиновки» горисполком слегка изменил движение автобуса № 1. Если ранее он едва доезжал до улицы Есенина, то теперь стал огибать практически весь жилой массив, возвращаясь к тому же кольцу на улице Есенина.

Решение было найдено на удивление удачное. Но нет в мире ничего вечного. Не прошло и месяца, как маршрут восстановили в прежнем виде. Интересно, чем руководствовался горисполком, делая это? Кто заинтересованная сторона? Ведь самому исполкому глубоко безразлично, доходит ли маршрут до конца застройки или останавливается на ее окраине. От поворота автобуса № 1 выгадала лишь небольшая группа жителей «Малиновки», живущая прямо возле кольца на улице Есенина. Время в пути стало на целых 5 минут меньше. Причем, как и раньше, они доезжают до самого порога. И, похоже, кто-то из них обладает достаточным влиянием, чтобы подтолкнуть горисполком к упомянутому выше решению. У властей же не было никакого желания оценивать выгоды или потери от этого решения. Спросить же самих жителей, как всегда, никто не удосужился. Народ пострадал, но кого это, кроме него самого, волнует?

Хотелось бы добавить и вот еще что: проблема была бы не столь остра, если бы были более рациональными оставшиеся маршруты. А то ведь, из трех рейсов два идут в Курасовщину, а номер «75» уже заслужил дурную славу несоблюдением интервалов: для водителей этого рейса ничего не стоит примчаться «порожняком» на конечную остановку, отметиться у автоответчика и убыть, вновь «порожняком», в неизвестном направлении. В отсутствие «единички» такие «шуточки» очень больно бьют по интересам жителей «Малиновки».

К тому же, даже те немногие маршруты, которые идут сюда, оптимально не продуманы. Конечно, вполне понятно желание транспортных служб убить одним выстрелом двух зайцев: и дальше связать между собой районы, и охватить как можно большую территорию этим маршрутом. Но ведь нужно учитывать и то, что Юго-Запад, по которому так петляют рейсы, все-таки недурно снабжен и другими маршрутами автобусов и троллейбусов. И что за необходимость по дороге из Курасовщины, вместо прямого 5-минутного проезда по Минскому кольцу до «Малиновки», вдруг закладывать крюк к кинотеатру «Берестье» и потом почти двадцать минут кружить по Юго-Западу? А ведь именно это и делают «65» и «104» маршруты автобусов.

Логического решения этих загадок нет. Вот я и ищу лиц, заинтересованных в столь нерациональном и нелогическом решении. И лиц настолько влиятельных, чтобы в их силах было изменить одним махом маршрут, который по большому счету устроит всех жителей «Малиновки» и станет единственной связью с метро и железнодорожным вокзалом.

